# СТУДЭНСКАЯ ДУМКА

## Часопісь беларускага студэнства.

№ 2 (9). САКАВІК—КРАСАВІК ГОД IV.

Вільня, 1928 г.



Беларуская Друкарня Ім. Фр. Скарыны, Вільня, Людвисарская 1.

# ЗЬМЕСТ

# СТУДЭНСКАЯ ДУМКА

Грамадзка-навуковая і літэратурная часопісь Беларускага Студэнства.

Адрас рэдакцыі: Вільня, сьв. Анны 2.

Падпіска квартальна з перасылкай 3 зл
Цана асобнага нумару . . . . . 1 зл

№ 2 (9) | 1928. САКАВІК—КРАСАВІК. 1928. | ГОД IV.



## 25. III. 18 – 25. III 28.

Завіхрылася буйна мяцеліца,
Віхры з посьвістам уздымаліся
І чырвоная ймгла ўсюды сьцеліцца,
Песьні вольныя раздаваліся.

Бура коціцца; віхар гудам гудзе.
Зямля-матанька ўздрыганулася,
А мяцеліца адно знае, мяце;
Сіла вольная скалыхнулася.

Ўжо народаў турма развалілася,
Над краінамі, над прасторамі,
«Воля вольная ўсім»! пракацілася,
Загудзела яна над разорамі.

Воля вольная завітала для ўсіх
І будуюцца зруйнаваныя.
Беларусе, ўставай! не адстань ад ўсіх.
Уставайце, браты катаваныя!

* * *

Мы паўсталі,
Мы склікалі
Ўсенародны Сход.

І рашылі
З гэтай хвілі:
Вольны Наш Народ.

Беларусі
У прымусе
Годзі ўжо стагнаць.

Край Забраны,
Зруйнаваны
Трэба будаваць.

У цымбалы,
Што сіл стала
Хлопчыку цымбаль.

Ў бубны бійце,
Ў трубы грайце
Сёньня у нас баль.

Доўга спалі,
А ўжо ўсталі
Воля нас заве.

Край наш родны,
Ўжо свабодны
Беларусь жыве!

* * *

Заплакалі струны,
І радасьць прапала,
І Край знову сумны.
Зноў сонца ня стала
Маркотна... навокала ціш.

Стаптанае права,
Усё чыста забылі.
Мяжою крывавай
Наш край разьдзялілі.
Узлажылі на плечы нам крыж.

. . . . . . . . . . . . . . . .

Яшчэ нам Воля агняцьветам
Над Беларусьсю расьцьвіце
І сьветазарным сваім сьветам
Далёка злыдняў адмяце.

Браты! да працы, да яднаньня,
Сваей працоўнаю рукой
Мы пераможамо ў змаганьні.
Хутчэй да працы, грамадой!
Хутчэй да працы, каб кіпела.
Пагоня нам пакажа шлях.
Яшчэ ўзаўецца горда — сьмела
Наш бел-чырвона-белы сьцяг.

*А. Б.*



*Не пагаснуць зоркі у небе*
*Покі неба будзе;*
*Не загіне край наш родны*
*Покі будуць людзі!...*

*Янка Купала.*

# 25. III. 1918 — 25. III. 1928.

У жыцьці кожнага народу бываюць урачыстыя мамэнты, калі ён, забыўшыся аб штодзенных жыцьцёвых балячках, напаўняецца магутным парывам духа і з высокім уздымам патрыятызму, з песьняю перамогі ідзе на спатканьне найпрыгажэйшай хвіліны ў ягоным жыцьці — Народнага Сьвята. Такім Народным Сьвятам у нас зьяўляецца дзень 25-га сакавіка, той дзень, у каторым Беларускі Народ вуснамі сваіх прадстаўнікоў заявіў галосна ўсяму сьвету: *хачу жыць!*

Бо што-ж можа быць найясьнейшым ідэалам кожнага народу, — як не сваё Незалежнае жыцьцё?

За слова „*Незалежнасьць*“ вяліся доўгалетнія войны, лілася кроў, не адзін народ даваў найлепшых сыноў у вастрогі, а ўсё-ж такі не дала гісторыя такога факту, каб які-колечы народ адмовіўся ад імкненьня да зьдзейсьненьня гэтага высокага ідэалу. Так сама і мы Беларусы, калі страцілі сваю незалежнасьць, не аддаліся аднак на волю лёсу, а праз увесь час свайго паняволенага жыцьця вялі барацьбу за свой народны быт.

Народ наш быў прыгнечаны як нацыянальна, так і сацыяльна і праз цэлыя вякі цягнуў ярмо няволі. Аднак лепшыя сыны яго, якія пачуваліся да агульнанароднага абавязку па цярністай дарозе шукалі вобмацкам таго шляху, які-бы вывяў народ да *Адраджэньня.* Мучанікі народныя праз сваю ахвярнаю сьмерць і цярпеньні ўскалыхнулі душу Народу. І вось Беларускі Народ не пабаяўся крывавых пагрозаў тых, якія на яго муках і цярпеньнях будавалі сабе гмах шчасьця. Не застрашылі нас ні вастрожныя краты, ні тайгі сібірскія, ні царскія шыбяніцы, — а магутная хваля народнага адраджэньня што год набірала больш сілы і веры ў перамогу сваей ідэі.

І вось калі ў XIX в. завіталі першыя прадвесьнікі адраджэньня, то краёвая інтэлігенцыя, паміма свайго шляхоцкага паходжаньня, нахінулася аднак да шэрых сялянскіх масаў і снуючы, туманныя яшчэ, думкі аб вызваленьні пачала працаваць над прыгатаваньнем падатнага грунту для будаваньня беларускага народнага гмаху. Залатымі літарамі на старонках нашага адраджэньня запісаліся такія імёны, як:

Марцінкевіч, Каліноўскі, Багушэвіч і інш., якія ўсе свае ўслугі злажылі на аўтар Бацькаўшчыны.

Век XX нясе ўжо з сабою шырэйшы разьмер вызваленьня паняволеных, калі ўжо й Беларускі Народ славамі свайго вяшчуна-прарока — Янкі Купалы голасна загаманіў: *аддайце волю нашу нам! Нашто схавалі, расхваталі?*

І вось гэтае сьвятое імкненьне нашага народу да волі, не магло больш стрымацца ў сэрцах мільёнаў, і ў дзень 25-га сакавіка 1918 г. на Зьезьдзе ў Менску многамільённы Народ Беларускі вуснамі сваіх прадстаўнікоў голасна на ўвесь сьвет заявіў: — *Хачу жыць, хачу быць гаспадаром на сваей зямлі!*

Дзень 25-га сакавіка гэта ёсьць найярчэйшае выяўленьне нацыянальнае сьвядомасьці й гарачага імкненьня да свайго народнага ідэалу.

Прадстаўнікі народу ў Радзе Беларускай Народнай Рэспублікі ад імя ўсяе Беларусі заявілі на ўвесь сьвет:

> «Год назад народы Беларусі разам з народамі Расеі ськівулі ярмо расейскага царызму, які найцяжэй прыцісвуў быў Беларусь: ня пытаючыся народу, ён укінуў наш край у пажар вайны, якая чыста зруйналала гарады і вёскі беларускія. Цяпер мы, Рада Беларускае Народнае Рэспублікі, ськідаем з роднага краю апошняе ярмо дзяржаўнае залежнасьці, якое гвалтам накінулі расейскія цары на наш вольны і незалежны край. Ад гэтага часу *Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчаецца незалежнай і вольнай дзяржавай.* Самі народы Беларусі, у асобе свайго Устаноўчага Сойму, пастановяць аб будучых дзяржаўных зьвязях Беларусі».

Так прамовіла Рада Беларускай Народнай Рэспублікі ў сваей Грамаце 25-га сакавіка 1918 г.

Аднак Народ Беларускі пасьля трохвяковай няволі ня меў настолькі сілы, каб праціўставіцца заборчым імкненьням ворагаў і ажыцьцявіць цьвёрдаю волю Народу, выражанаю 25 сакавіка 1918 г. Успыхнула ўзноў за Беларускія землі ваенная завіруха, вынікам якое быў рыжскі трактат, які падзяліў на часткі жывое цела Беларусі. Узноў Беларускі Народ апынуўся далёка ад незалежнага жыцьця. — Аднак

імкненьне да агульна Народнага ідэалу — *незалежнасьці Беларусі* — не загасла, а тым больш ідэя незалежнасьці, што год становіцца актуальнейшым парадкам дня. І вось у сягоньняшняе дзесяцілецьце прыходзіцца прыкмеціць, што ідэя незалежнасьці пераходзіла розныя каляіны, аднак думка аб зьдзейсьненьні гэтага высокага ідэалу, якая найярчэй праявілася воляю народу ў дзень 25-га сакавіка 1918 г. што раз становіцца бліжэйшай да асягненьня, бо народ, які раз праявіў жыцьцёвую сілу,—не загіне, а хутчэй ці пазьней дойдзе да мэты.

*Ст. Ст.*

*СТ. ГРЫНКЕВІЧ.*

# Узгадаваньне характару.

Шмат балючак у нашым нацыянальным жыцьці. Дзе ня глянуць, скуль ня кінуць вокам — усюды блага, усюды дрэнна. Паказваць нат, ня трэба, усе мы бачым добра. Казаць аб іх аднолька-ж трэба, кратацца — на месцы не стаяць, калі хочам перамены, калі хочам, каб сьветазарнае заўтра зіхацела прад намі бліжэй, каб здужалі мы ня толькі аб ім лятуцець, працаваць, змагацца а й ўбачыць собскімі вачыма.

Благоцьце нацыянальнае беларускае падзяліць можна з боку гледжаньня прычыны: 1-е надворнае — вонкавае і 2-е ўсярэдзіннае — унутранае. Аднаго і другога самыя мы, Беларусы, будзем прычынамі безпасярэднымі або пасярэднымі. Прычыны няшчасьця надворныя — прыкладам тыя ці іншыя абставіны палітычныя, сацыяльныя з асноведзьдзю агульна-эўропэйскаю ці агульна-сусьветнаю — ведама мала залежныя ад нас. Ці-ж вінавацімець хто нас сёньня, што заняпад наш трываў доўга, ці, што пачалося адраджэньне пазьней на нашай тэрыторыі, чымся ў іншых дружынах славянскіх?! Калі-б была гэткая гутарка, дык ведама мэтнасьці ў ёй ня надта шмат мы нашлі-б. Нашчадкі адказываюць за правіны дзядоў — прадзедаў па столькі па сколькі будуць яны аб'ектам, дзе праяўляецца выплад дзеяў мінуўшчыны. Актыўнае — маральнае адказнасьці на іх няма ніякае.

Ці мы вінаватчыкі безпасярэднія разьдзелу Беларусі на некалькі частак? Усім, хто ня ведае абставінаў жыцьця Ўсходняе Эўропы, і хто размяркоўвае ўсенька на свой лад, а знача Французы, Германцы, Італьянцы глядзяць па „заходняму" — дык магчыма прыдасцца, што калі мы ня маема чаго, што паводле нас вам належыцца, дык мы і адказваем за бяздольле свае. Гляньце на сваіх суседзяў — яны мелі правы, яны як сьлед скарысталі з бязладзьдзя, якое тамака чаўплося, ці інакш кажучы, трэба было адносна іх паказаць справядлі-

васьць чалавецкую, яны дасьпелі (быццам і тутака неабходная нейкая дасьпеласьць адумысловая, а ня толькі права жывое істоты) каб прыняць яе на сябе. А дзеля гэтага, калі вы й кажаце аб крыўдзе нейкай, дык ужо вашая віна.

Вось, што мы пачулі-б ад чужых людзей.

Гэта адносна надворных прычынаў. Так ці інакш баронімся ад закідаў магчымых сваіх і чужых.

Інакш будзе, калі глянем на прычыны ўсярэдзінныя, якія з нас пачынаюцца, карэньні якіх растуць у асобах, сэрцах, мазгах, словам у душах нас самых. Кажу нас самых, знача ўжо дзеля гэтага трэ‘ спадзевацца адказнасьці. Думаю, што будзем згодныя на тое, што чалавек, пакуль ён здароў, на розуме і на целе адказвае за дзеі свае.

А шмат у чым трэба-б пакаяцца, сказаць — вінаватыя глядзячы на цяжкое жыцьцё сваё й народу... Людзі спадзеюцца на будучыну, ждучы ад яе перамены. Ці заўсёды і ўсюды абаснаваныя гэныя спадзеўкі?! Бязумоўна не.

У аднэй з часопісаў быў зроблены агляд меркаваньняў магчымых адносна пытаньня „Чым палепшыць сучаснае палажэньне“. Адзін адказ — перамена абставінаў палітычных у вялікім масштабе, перамена прынцыповая існуючага ладу, а стуль хвалі новага жыцьця падхопяцца да нас і спыніцца ўсенька, ад чаго плачама цяпер. А дзе-ж самыя Беларусы? бо неяк у такой праграме іх ня відаць?!— Згодна з паглядам вышэй паказаным — пункт апоры ня ў нас, а недзе ў іншым месцы. Адносіны нашыя паводле іх хай будуць найбольш спагадныя ўсім, хто ласкава схоча глянуць на нас.

Гэтак адныя.

Іншыя наадварот. Кажуць — трэ‘ спадзявацца толькі на сябе, на сваю дужасьць, бо чужыя прыяцялі могуць зьвясьці. Вось дзеля чаго трэба ладзіць ува ўсіх галінах жыцьцё, каб ніколі не аглядацца на вонкавыя спагады ці перапынкі. Хочучы быць кансэквэнтным у гэным імкненьні, трэба шукаць шляхаў да зьдзейсьненьня іх.

Дык вось чаму, калі падумаем толькі аб сучасным палажэньні, неабходна выяўляецца прад намі пытаньне характару. Ведама-ж сапраўдным чалавекам будзе чалавек з дужам характарам, бо, як убачым ніжэй, само ўжо гэнае паняцьце абхоплівае мэту жыцьця — змаганьня, кругатропы да падыходжаньня да яе. Скажа хто, што гутарыць нам аб характары ў пару дасьпяваньня, цяпер калі мы ўжо дазрэўшыя людзі, дык няма калі спыняцца над гэтым, кожная хвіліна дарагая...

Адказваць нат‘ на закід такі ня сьлед. Хто ня бачыць, што вялікая частка моладзі нашае мадзее, туліняецца маральна, ня бачачы нідзе прыпынку, апоры! Пачаткова яшчэ сяк-гэтак, пакуль дух малады кіпіць, кідаецца на ўсе бакі, хапаючыся за рознаякастныя ідэі, якія трапляюцца прад ею, а потым астынуўшы, замучыўшыся адкарасквaецца ад усяго, зачыняецца ў вузенькіх рамках эгоістычных імкненьняў. Дзеля нястачы характару й тутка няма суцэльнасьці, і гэны эгоізм не вялікі, бо не хапае дужасьці каб зьдзейсьніць і яго.

Калі магчыма вешта такое ў тое ці іншае моладзі — немагчыма ў Беларусоў. Мы ім, а яны нам не раўня.

Глянь чытачу на тое, што буду казаць, а ўбачыш неабходнасьць вялікую падумаць, развaжыць, дасьледзіць да канца пытаньне ўзгадаваньня характару. Мо скранешся й ты, бо прызнацца кожнаму трэба, што з характарам у нас дрэнна. Чаму й скуль пачынаецца і чаўпецца тое блага? У першай чарзе школа сучасная, дрэнная агульна, што-ж казаць аб той, якую бачым у нас. Штодзеннае жыцьцё выяўляе за шмат мо' нат прыкладаў. Адзін з пэдагогаў кажа: „Сяньняшняя школа падтрымліваець пассыўны, інэртны характар, узгадоўвае глядзельнікаў жыцьця, якія найлепей ужо калі здоляюць „ведаць", ніколі ня будуць умець „хацець". Глянуўшы добра нат і апошніх ня шмат убачым.

Небясьпеку абнядужаньня паўсюднага адносна сілаў ўнутраных бачаць ўсенькія лепшыя адзінкі зпаміж людзей, якія ўзгадоўваюць моладзь. Літэратура замежная поўная гэтым праблемам. Цікуюць ня тольвя настаўнікі, а і палітыкі, і грамадзкія працаўнікі, і часта больш сьведамыя з бацькаў. Усе з свайго боку гледжаньня зацікаўлены. Зацікаўленасьць гэная не з аднае прагі за навінаю. Дый пытаньне само надта ня новае, яно ўжо мае сваю вялікую мінуўшчыну, пачынаючуюся калісь ў пару расьцьвету думкі старасьветных Грэкаў, захопліваe амаль ня бязвыключна той аграмадны натоўп найвялікшых адзінак з шаругі думаньнікаў такое меры, як Кант, Лёк, Гербарт...

Навіна ў адношаньні да гледжаньня на характар адна мо' тольні будзе — гэта мэтады, якімі валадаюць і хочуць карыстацца людзі, лятуцячы аб зьдзейсьненьні будучага, ідэальнага чалавека. Скажам, што сёньня праблема нашая мае погляд больш навучны, трываўкі, калісь былі хутчэй пыгожыя пажаданьні, абаснаваныя на досьледах розуму без датарнаваньня ўсяго, чаго вучаць практыкаваньні ці самое жыцьцё.

Дык жывучасьць гэнае праблемы не адгэтуль. Жывучасьць яе ў том паўсюдным маракаваньні, бядаваньні па нястачы людзей з характарам. Вонкавасьць захопліваe ўсіх і імчыць за сабою, не пакідае хвілінкі, каб глянуць ў сярэдзіну, „пакатупацца" з самым сабою, прывыкаема лёгкаважыць ўсенька, што ня бліщчыць, не маніць вока надворнаю пазорнасьцю... Гэткае адношаньне пакіне выплады бязумоўна благія, бо-ж уся дагэтачасная нашая культура, калі й можа пышніцца здабыткамі, дык ня з эгоізму яны, наадварот — крыніцаю ім была самаахвярнасьць, самазрачэньне собскага, невялікага на карысьць паўсюднасьці, праяваў жыцьця ня мінаючых.

Заблытанасьць адносінаў сёньняшніх у кожнай галіне, скумячанасьць бязумоўна вялікшая, чымся была калісь, вымагае ад кожнае адзінкі заўсёднага напружаньня ўсярэдзіннага, каб ня блудзіць наманіцамі, сустрэнуўшы слабенькую якую запыню на шляху сваім, ды каб не расцярушыцца самому зусім.

Напружаньне гэнае ня што іншае як „трываўкасьць прэдпасылак маральных у суцэльнасьці духовага ядра чалавека" *).

*) Л. Запескі.

Паўсюдны напрамак, шлях, якім і сёньня йдзе ці валачэцца чалавецкасьць, забыўся аб нейкім там мэтафізычным, абстракцыйным характары. Глядзелі ўчора, глядзяць й сёньня да рэальнага, да таго, што карысным маніцца, прынамся на заўтра. Далёка глядзець ня хочуць, яно й ня цікаўна чалавеку, які жыве лёзунгам сёньняшнясьці.

Гэны напрамак пакідаў вялізарныя сьляды ўва ўсенькіх галінах, дык няма што дзівіцца, калі ўсюды, на кожнай асноведзі думак найбольш крышталёвых — выпаўзалі шчарубінкі, робячыя немагчымым й так даволі крывое лагво дзеяў чалавека. Глянуць на абставіны сацыяльныя, калі змалку дзіця расьце ў бядзе, голадзе, холадзе, гледзячы на роскаш, раскідліваcьць сьветам цялер валадаючых, ці гэта спагадае ўзгадаваньню поўнага чалавека?! Галіна нацыянальная жыцьця з падзелам на дзяржаўныя і недзяржаўныя народы, на народы большасьці й меншасьці, што выклікае аднолькава ў адных і другіх, дзеля розных прычынаў, бязупынную барацьбу, змаганьне паміж загадамі паслухмянасьці, а любоўю да свайго народу... Канфлікты духовыя гэткія, ясна, характару цьвёрдага не даюць.

Дык што рабіць? Ці ждаць пакуль ўсё пераменіцца й тады думаць аб распрацоўцы ў сабе чалавека? Ведама на гэткім становішчы астацца немагчыма, ужо дзеля таго, што чалавек з прыроды свае ймкнецца да шчасьця, а што зноў шчасьце сапраўднае магчыма зьдзейсьніць дужаму, магутнаму, валадару прадусім самога сябе, трэба думаць аб узгадаваньні ў сабе гэнае дужасьці воладарства душы. Праца тутака ня гледзячы на нішто ня спынялася й ня спыніцца. Трэба толькі аднаго, каб шырока распаўсюдзілася паняцьцё, дзе яно, тое сапраўднае шчасьце. Трэба сьцяміць, што ўсенькія істнуючыя балячкі, ці агульна магчымыя, залекаваць магчыма не шляхам дзеяньня вонкавага, а наладжваньня ўсярэдзіннага.

Вывад апошні, праўда вялікая — вядомая здаўна, ведалі яе людзі старасьветныя, аднолька-ж праўду гэную трэба няспыняючыся паўтараць, каб разьвеяла яна старыя пагляды.

Дык знача трэба страсянуць ў сабе душу, каб прачхнулася ў ёй імкненьне да свабоды сапраўднае, незалежнасьці ад мінаючага, не закранваючага сутнасьці зьявішчаў, адношаньня. Ня трэба дзеля гэтага хавацца ў сабе, зачыняцца абсалютна ад кіпучага жыцьця, ня трэба ялавістае кантэмпляцыі — а трэба наладзіць парадак у сабе. Праяваю, магчымасьцю гэнага ладу й будзе характар. Вось чаму гэта пытаньне й будзе загадам агульна-чалавецкім дзеля нас і адначасна нацыянальным.

Няма думаю ў нікога сумлівасьцяў, што адносна ўзгадаваньня характару, сёньня блага зусім. Калі-б папытацца што-ж гэта такое характар, у чым ягоная сутнасьць, у чым праяўляецца ягонае ўзгадаваньне — дык пачулі-б мы або нейкія агульныя растулмачваньні, або кожны чалавек адказваў інакш, па свойму. Шмат хто казаў-бы нам аб немагчымасьці пераінакнаваньня характару, бо ён у нас прыродны, што мы дастаём у спадчыне, ці інакш кажучы — якім радзіўся, такім і пражывеш. Дзеля гэтага пакрысе трэба сказаць, аб

чым думаем кажучы характар, ці сапраўды магчымая гутарка аб ягоным узгадаваньні, ці мо' мы абманваем сябе, лятуцім толькі аб прыгожых мрыях?!

Дасюлешнія пагляды на характар можна падзяліць на дзьве групы: I — пагляды фізыолёгічныя і II — псыхолёгічныя.

У першых паняцьце характару супольна лучыцца з тэмпэрамэнтам, а тэмпэрамэнт гэта свядомасьць, абапёртая на праявах фізыолёгічна-анатамічных жыцьця чалавека. Адзін з дасьледчыкаў кажа прыкладам аб абсалютнай залежнасьці характару (тэмпэрамэнту) ад шырыні, вялічыні жылаў крываных*); іншы абасноўвае ўсенька на якасьці тонуса нэрваў**). У шмат вялікага ліку аўтараў гэнага паглядy, ня гледзячы на даволі вялікія разыходжаньні, магчыма ўбачыць чародныя чатыры разгаліненьні характару***): 1) мэлянхолічны, 2) сангвінічны, 3) флегматычны, 4) халерычны.

— Памылка іхняя ў тым, што маняцца знайсьці прычынныя адношаньні, дзе іх няма зусім. Магчыма было-б казаць аб прысутнасьці гэтае лучнасьці, аднолька-ж трэба астацца ў плашчыні гыпотэзаў, яны-ж выказваюць прэтэнсыі да навучнасьці. беззакідлівасьці сваіх паглядаў. А як раз навучнасьці тутака й ня бачым.

Бязумоўна згадзіцца нам трэба, што натуральны падклад прыродных нахілаў уплывае на характар. Толькі-ж ня ўплыў, ўплываваасьць магчымая ў розных людзей неаднальковая, дый ў аднаго й таго самага яна або расьце, або гібее ці зусім прападае.

Дык вось чаму бліжэй праўды пагляды псыхолёгічныя. Шмат напрамкаў бачым тутака, залежна ад мэтадаў падыходжаньня да праблемы. Гэткім чынам адзін з напрамкаў псыхолёгічнае школы карыстаецца інтуіцыяю выключна ў сваіх досьледах. Іншыя, бяруць за фундамант некалькі рысаў, падхопленных імі з натуры і з іх робяць свае вывады. Трэція ставяць будыніну свайго гледжаньня, дасьледуючы асьцярожна кожны паасобны факт і з вялізарнае колькасьці ўбачаных фактаў імкнуцца да вываду паўсюднага, агульнага. Апошняя галіна досьледаў, якую завуць псыхографіяю навучнаю, хаця й мае будучыну, дагэтуль мала яшчэ распрацавана.

Кожны з памянёных метадаў мае добрыя стораны. Галасы прадстаўнікаў сучаснае навукі падзеляны паміж імі, дзеля таго трэба было-б выкарыстаць па меры магчымасьці, што ў іх усіх ёсьць найлепшага. Ня трэ палохацца гэнае вялікае колькасьці пoглядаў, мэтадаў. Багацьце іх магло-б казаці нам толькі аб тым, што дагэтуль яшчэ навука ня здоляла схапіць самае сутнасьці характару, хаця вельмі блізка да таго, ніколі-ж разрозненнасьць гэная ня сьведчыць аб немагчымасьці ўявіць тае сутнасьці. Ждаць пакуль гэнае паняцьце будзе без такіх ужо сумляваньняў нельга, дык таму сьмела, ня гледзячы на недахопы з боку навукі, трэба намаляваць прад сабою воблік чалавека заўтра, чалавека будучага. Інакш думка аня-

*) Лешафт.

**) Гэнле.

***) Траба памятаваць, што характар а тэмпэрамэнт тожсамасьць ў іх.

мела-б, прасьмягла-б, а мы не крануліся-б з месца, дзе стаім. Трэба прабаваць, навука потым прыдзе на падмогу. Ведаем, што сёньня з узгадаваньнем характару блага, а хочучы, каб было лепш, дык бязумоўна неабходна трэ бачыць той ідэал, тую мерку, да якога хочама дарасьці, паводле якое хочама расьці.

Папярэднія разважаньні закратывалі больш тэорэтычную старану характару. Калі-ж гутарка аб практычнай, аб якой думаем прадусім, дык памятаваць яшчэ трэба, што дэфініцыя характару мусіць абхопліваць чародныя тры пункты: 1) дэфініцыя ня можа разыходзіцца з аснаўною праўдаю душы чалавечае, 2) трэба, каб яна, як сьлед, ацаніла магчымасьць узаемаадносінаў адзінкі й грамадзянства, уплывы паабапальныя, 3) у канцы трэба, каб былі паказаны мэтады зьдзейсьненьня мэты. Характар абстрактны, не абхопліваючы сапраўднасьці. ніякае цаны для нас ня меў-бы, Дык памятуючы на вышэй памянёныя засьцярогі, дэфініцыя праф. Зажэцкага здаецца, лепш іншых будзе адказвала нам:

„Характар гэта ўмецтва дзеяньня, злучанае з адначаснаю прысутнасьцю магутнае волі, бязупынна расстучае і самасьведамасьці, датарнаваньне ўсіх магчымых чалавеку багацьцяў сіл жыцьцёвых, скіраванае ў супольнасьці з сваім народам, на належным сабе становішчы, да мэтаў агульна чалавецкіх".

Пакуль разгледзім дэфініцыю гэтую, гледзячы на іншыя істнуючыя, трэба насамперш адказаць, ці магчымае запраўды ўзгадаваньне характару, калі-б дэфініцыя нат, была й зусім добраю! Дзе мяжа ўплываў чалавека ўзгадавальніка, ўзгадоўваючага сябе ці іншых людзей?! Адказ надта паважны, бо калі тае магчымасьці няма, дык усенькая гутарка безкарысная, бязмэтная. Праблема будзе вельмі цікаўная, практычнага датарнаваньня ў ёй ня было-б абсалютна ніякога.

Людзі бядульлівыя, што часта наракаюць на бязвольнасьць, безхарактарнасьць сучаснае пары—найчасьцей пярэчаць сабе, кажучы пэсымістычна, што-ж рабіць, калі на тое Воля Божая, фатум, натура ці яшчэ нешта такое. А ўсенька гэта дзякуючы нястачы лёгікі ў мышленьні, дзякуючы недахопу спаціканьня *) й самаспаціканьня; няўмецтву ўявіць сабе магутную сувязь прычынную між зьявішчамі, бо-ж усе мы верыма, што ўплываем магутна на цёк той ці іншы вонкавы, а яны сумліваліся-б аб уплывовасьці на цёк усярэдзінны!!

Гэткія пагляды папулярныя, без навучнага фундаманту, вельмі частыя, за імі сьледуюць ня толькі адзінкі ці грамадзянствы, а нат старонкі цэлыя, народы! Ёсьць аднолькавыя пагляды й з штэмпэлям навукі.

Агульна ўсенькія навучныя пагляды падзелім паводле E. Parissot і E. Martin на тры групы: 1) скептыцыстыя, 2) догматыстыя, 3) рэлятывістыя.

---

*) Обсервацыі.

Першыя пярэчаць абы якой магчымасьці. Прынцыповых рысаў душы чалавецкае, як і прынцыповых свомасьцяў целаскладу фізычнага ніхто не пераменіць. Гляньце, кажуць скептыкі на права спадчыньніцтва ў біолёгіі, яно ясна паказуе, што бацькі, дзяды, далёкія продкі робяць нас такімі, а ня іншымі людзьмі.

Перасаджваньне аднолькаж біолёгічнага права ў зусім іншую галіну ня вельмі стойка. Самая-ж біолёгія дазваляе на зьменчывасьць, ведама ў абмяжованых граніцах. Ці магчымасьць ўплыву, разважаючы аналёгічна, была-б тутака за межамі ўплываў?!

Дагматысты аскранно глядзяць. Паводле Лёка, з ягоным чалавекам, што родзіцца як tabula rasa, кожная адзінка аднольковыя мае нахілы да ўсяго. Дзеля гэтага з дзесяці чалавек, выбраных зусім не адумыслова, а як папала, бязумоўна дзевяць будуць такімі, якімі мы іх узгадуем. Дзеля гэтага у Гэльвэціуса, духовага спадачніка Лёка, гэній — твор абставінаў ад калыбкі да дасьпеласьці. Канец XVIII і ўсенькае XIX стогодзьде ня інакш глядзяць.

Ім трэ' закінуць, што падыходзяць яны да жыцьця з апрыорыстычнаю формулаю, з якое потым выходзіць ўсё, што трэба. Адныя бяруць біолёгічныя правы, другія будуць выходзіць з прэдпасылак мэтафізыкі (прыкладам Кант, Шопэнгаўэр з ягоным „welle non discitur“). Апрыорыстычнасьць пачаткавая заблытае заўсёды пад канец. Жыцьцё ня толькі розум, мяркаваньне, гэта ня будуць зноў паасобыя, голыя факты з сабою нічым ня злучаныя. У канцы-ж пераменлівасьць, трываўкасьць, гэта-ж паняцьці корэляцыйныя, якія супражнічаюць заўсёды з сабою. І яшчэ адно — трэ' памятаваць, што тутака пытаньні: як, дзе, калі вырашаюцца апрычна, а ня гуртом.

Вось чаму бязумоўна лепш адказваюць на праблему рэлятывісты. Няма ў іх абсалютнае трываўкасьці, ці неабмяжованай пераменлівасьці характару. Ўзгаданаьне ніколі не зачыняецца ў рамах аднаго пакаленьня, таму ня будзем дзівіцца, калі падчас мэта, якую распрацоўваем, здаецца немагчымаю да зьдзейсьненьня адзінцы. Калі хочам бачыць той вялізарны ўплыў самаўзгадаваньня, дык глядзема на чалавецкасьць нат і народ ня ў плашчыне падольнай а стоцьнай, тады цемі дзель нас ня будзе.

Цяпер яшчэ некалькі слоў да паказанае дэфініцыі. Бачым у ёй рысы практычныя, абхопліваючыя ня столькі навучную старану праблемы, сколькі жыцьцёвую.

У багатым паняцьці характару, судзячы з нашых досьледаў, ёсьць дзьве стораны: 1) сума рысаў псыхолёгічных, спадчынных, што чалавек дастаў ад бацькоў, 2) тое ўсенька, што сам чалавек раздабыў. Ўзаемаадносіны аднае часьці да другое вельмі не аднолькавыя ў розную пару. Гэрбарт аналёгічна бачыць дзьве часьці — кажучы аб іх — аб'ектыўная й суб'ектыўная. Тутака суб'ектыўнаю часьцю былі-б прынцыпы нашага дзеяньня. Лепш яшчэ было-б казаць на гэныя часьці — статычная й дынамічная.

Гэныя стораны асабліва неаднальковыя будуць ў маладзіка й старога. У першага буйна растуць абедзьве, век даспеласьці ў роўнаваге, ў пару схіляньня да зямлі дужэйшая шмат старана статычная.

Сьвет, асяродак, у якім жывем, няспыняючыяся новыя ўражаньні аддаюць у маладзіка першынства актыўнасьці, дынамізму, дзякуючы зноў чаму багацеюць статычныя элемэнты (пакуль ня будзе раўнавагі ў пару дасьпеласьці). Тое ймкненьне магутнае сілы маладое, якое хоча ўсенька спазнаць, прыслутнасьць *„навытару дзейнага"* й будзе першым сапраўды важным элемэнтам характару. З навытару, амаль ня выключна, ў нас пачынаюцца ўцямкі,*) пагляды, перакананьні, а на іх і пабудаваны характар. Вось чаму думаючы аб характары трэ' памятаваць аб дзейным навытары. Пагляды ня чужыя, а собскія, якіх я не падхапіў з чужых гутарак, ці кніжкі дый паклаў у зацемкі мозгу, а пагляды перадуманыя, мае ня толькі з назову, пакажуць чалавека дужага, які ведае чаго і як хацець, які ўмее хацець.

Дзейны навытар забясьпечвае прысутнасьць вясельля душы, тае радасьці, жыцьцёахвотнасьці без чаго й немагчыма зусім сапраўднае жыцьцё.

Гэткае адношаньне, дзейны навытар, неабходна спараджае другі элемэнт характару, мяноўна — сьведамасьць, *самасьведамасьць.*

Яно й сапраўды — чым далей ад пары дзіцячае, тым лепш выяўляецца розніца паміж аб'ектам і суб'ектам, спасьцярогі адна за другою маўляў крычаць аб гэтым. Спасьцярогі выклікаюць, пакідаюць па сабе новы сьвет, сьвет мрыяў, уяўленьняў. Навытар дзейны, рэакцыя на спасьцярогу, паказуе іншасьць выпладаў фантазыі ад істнуючае рэальнасьці.

Грамадзкае сужыцьцё яшчэ лепш паказуе тую іншасьць аб'екту і суб'екту, спасьцярогі й ўяўленьня. Тое што бачу я, а ня бачаць іныя, пры аднолькавасьці абставінаў — будзе творам суб'ектыўным. Інакш гэта мы ня сьцямім, калі не ў грамадзкім сужыцьці. Хаця й няма паўсюднае згоды, што-ж гэта такое „Я" нашае, кожны крок наш аднолькаж выяўляе, што я ня тое самае, што мой знаёмы таварыш.

Толькі сьведамы свае якасьці, цэннасьці чалавек згледзіць, дзе ягонае становішча ў грамадзянстве, ён ня будзе пытацца ды ня будзе ў ём і нясьмеласьці.

Чародны элемэнт характару — гэта *агульны разьвітак духовы.* Назоў шырокі, абхопліваў-бы раўнамернае ўзбагачваньне ўсенькіх уладаў душы г. ё. уладаў розуму, волі, пачаву (пачуцьця).

Дагэтуль істнуючыя пэрыяды мелі характэрнае пяршынства не аднае дык другое з уладаў, кажуць аб пары рацыяналізму, або зноў пачуцьцё на першай чарзе. Сьцяміць лёгка, што розум і пачуцьцё трэба, каб ішлі заўсёды поруч з сабою. Дурны нікольні-ж ня будзе чалавекам з характарам. Дзель таго ўжо, што ў апошняга мусіць быць цьвярознасьць прысудаў, паглядаў, а гэта немагчыма, калі няма незалежнага думаньня. Што знача незалежнасьць у думаньні, паказуе сяньняшняя школа. У ёй расьцярушаны унівэрсалізм з адначаснаю аднабокасьцю пакідаюць выплады, перамагчы якіх гадунцы ніяк ня здужаюць часта дакуль жывуць.

---

*) Паняцьця.

Дужасьць, могутнасьць волі настолькі своміна характару, што сустракаем часта ідэнтыфікацыю абодвых паняцьцяў. Дужасьць гэная вельмі нятрываўкая, калыткая, за ею трэба заўсёды сачыць, каб пружынiстасць яе не паменшала, до невялічкае дзеі, якая пераміту-сіць непарушныя, здаецца, здабычы. Без яе розум нічога ня здужае. Будзе бачыў нат' і мэту прад сабою, мэту вялікую, ўсёабхопліваючую, а не кранецца да яе, ня ўмеціме хацець яе зьдзейсьніць. Рэалізуючы волю, трэба ймкнуцца йсьці да яе шляхам адначасна адзінкавым — індывідуальным і грамадзкім — сацыяльным. Недахоп аднаго з учасьнікаў — непраходная запыня. Прыкладам, калі няма згоды паміж школаю і бацькоўскаю хатаю, калі аднаго вучаць аб рэлігіі, а бачымо, што тыя самыя настаўнікі робяць інакш, ўсенька гэта волі не ўзгадоўвае, ня робіць яе дужэйшаю.

Волі трэба імпульсаў. Імпульсы гэныя не заўсёды адныя і тыя самыя. Трэба патрапляць падхапляць згукі, дзе поруч з вечным будзе тое з сучаснасьці, што найбольш закране адзінку.

Дзеля таго, што воля пачынаецца з пачуцьця, трэба каб і гэная ніва ня была ялавінаю, каб на ёй шкодны пырай ня рос, а каб і тутака цьвятнік прыгожы красаваўся. Дабрадзеяньне як трэ' ўзгадаванага пачуцьця бачым асабліва ў рэакцыі на зьявішчы, калі розум не пасьпевае выступіць актыўна, калі нешта робіцца незалежна, апрычна ад яго. Вось тутака пачуцьцё й зможа паказаць сябе. Дык ясна, як глядзець на яго нам прыдзецца.

Згодна з бачаньнем у характары дзьвюх старон — статычнае й дынамічнае, ўсенькія тры памянёныя рысы маглі-б быць абхопленыя статычнаю стараною. Усе яны будуць хутчэй магчымасьцю дзеяньня такога, ці іншага, аднолька-ж дзеяньня ня выклікаюць, нат будучы ў ім потым. Другая частка характару — гэта *мэта*. Мэта, зорка пуцяводная — вось ад чаго амаль ня бязвыключна залежыць, якім будзе жыцьцё. Хай будзе ўсенька іншае й вельмі багатае — й воля трываўкая й розум вялікі і г. д., а калі мэта благая, дык карысьці адтуль няма ніякае ні грамадзянству, ні самай адзінцы.

Бязумоўна найшляхотнейшая мэта, без магчымасьці зьдзейсьненьня яе, гэта знача бяз прысутнасьці наладжанае першае палавіны характару, сьлядоў не пакіне па сабе, блісьне, што тая маланка, глянуць на яе людцы, пагаманяць крышку і больш руліцца ня будуць.

Мэта дзеліць людзей, на партыі, розныякія папрамкі пры аднолькавасьці іншых рысаў характару. Дык бачымо адгэтуль, што яна й ахварбоўвае ў розныя коляры грамадзкае, нацыянальнае, агульнасусьветнае жыцьцё. Кажучы аб мэце, ідэі інакш, памятуйма, што не даволі, каб гэта абы якая была мэта, хай і надта ідэальная, не эгоістычная, нат абхопліваючая кругазорам сьвет усенькі. Не—гэтага мала. Трэба яшчэ, каб яна была рэальная, каб была магчымасьць яе зьдзейсьніць. Гэткая ідэя—мэта згуртуе, аб'яднае й паасобных людзей й вялікія іх грамады — народы. Мэта рэальная, вялікая, падымаючая чалавека што раз вышэй, адчыняючая яму вочы на шчасьце, якая вучыць яго, што шчасьце сапраўднае адзінкі стульна злучана са шчасьцям арганічнае суцэльнасьці — народу, не апрычных кля-

саў яго, мэта такая так-жа й будучае шчасьце паўсюднае чалавецтва, шлях да якога бязумоўна праз народ.

— Вось чаму дэфініцыя праф. Закжэўскага найбольш нам адказвае. Яна, як ня трэ лепш абхапіла абедзьвія часьці — дымамічную і статычную характару. Бо гляньма на такую дэфініцыю: „характар гэта выплад суцэльнасьці прывычкаў маральных, разумна разгрупаваных каля аднае восі—волі“ (P. Gillet, L'Education du caractére, Paris).

Як бачымо дэфініцыя статычная. Гляньма на іншую: „характар гэта зьлічво простае шматлікіх пахілаў, якія змагаюцца паміж сабою аб жыцьцё чалавека“ (P. Dubois „L'education de soi-meme“). Дэфініцыя выключна дынамічная.

---

*Ст. Ст.*

# Над Нёмнам.

Густы змрок вясеньняе ночы павольна апускаўся на прастор зямлі і ўсю прыроду ўкалыхіваў да салодкага сну. Кругом панавала мёртвая цішыня, толькі калі-не-калі зацягнець сваю пераліўнаю песьню салавейка, голас якой напаўняў душу нейкім няведамым глыбокім сумам. Ціха стаялі сталетнія дубы, зьвесіўшы свае галіны над ракою -- Нёмнам, які плыў павольна кудысьці ў невядомаю даль.

Прыгожая чароўная ноч!

Сэрца напаўнялася магутнай сілы энэргіяй і хацелася на крыльлях фантазіі ляцець кудысьці ў прастор шырокі, скрышыць па дарозе ўсе жыцьцёвыя перашкоды, а стацца вольным бы тая птушка ў блакітным небе.

Хацелася жыць і тварыць. — тварыць на славу паняволенага люду, які закінуты злою доляю перажывае сумныя хвіліны ня відзячы ні адкуль збаўленьня, тварыць агнём Прэмотэя які-бы разагнаў цемру вечнае ночы, а паказаў-бы дарогу да яснага блакіту. Хацелася-б адарвацца зусім ад штодзеннага жыцьця, а зьліцца ў адно цэлае з чароўным вобразам летняе ночы і сьніць — лятуцець аб нечым няведамым, прыгожым і недасягнутым, — бо толькі там можна знайсьці шчасьце й спакой.

Гэткія думкі — лятуценьні снаваліся ў душы Міхася, які ўпоены чарам ночы падплываў на лодцы да берагу, гдзе за вярхамі калматых дрэў грозна ўзносіўся панскі палац.

Падплыўшы да берагу, выскачыў з лодкі і пашоў уздоўж ліповае алеі, гдзе ляжаў вывярнуты бураю дуб. Сеўшы на пень заглыбіўся ў нейкія невядомыя думкі, кідаючы час ад часу нецярпліва ўзрок на прыблізнаю ліповаю алею, якая вяла з двара да рэчкі.

Урэсьце сярод кустоў замаячылася дзявочая постаць, на відак каторай Міхась радасна ўскочыў і пабег шпаркімі крокамі на сустрэчу дзяўчыне. Гэта была Мар'янна — панская пляміца, высокая

стройная дзяўчына з гібкім станам і чорнымі, сьплеценымі ў дзьве касы валасамі, засопшыся рэскім голасам прамовіла:

— Ну, што спазьнілася крыху — гэта нічога, бач, якая прыгожая ночка, павазі мяне ў чоўне! —

Міхась узяў за яе белаю ручку і спусьціліся абое ўніз да ракі, селі ў човен і пашыбалі па сініх хвалях Нёмна. Яму было лёгка на сэрцы будучы блізка каханай істоты, прыціснуў яе дзявочаю постаць і адазваўся спакойным голасам:

— Бачыш, Мар'янна, якая прыгожая ночка, якія чароўна-мілыя гэтыя зарошшыя лесам берагі роднага Нёмна, усё тут саваё знаёмае, а гэтыя касулі яснага месяца, якія абліваюць срэбрам усю зямельку, — песьцяць нас і цалуюць. Ці-ж ня міла жыць на белым сьвеце, любавацца прыгожым вобразам прыроды? —

Мар'янна маўчала. Вочы яе былі зрошаныя сьлязмі — яна плакала.

— Што з табою Мар'янна — адазваўся Міхась. — Мо' што дрэннае сталася, кажы?! —

Мар'янна доўга змагалася з сабою, у рэсьце прамовіла нібы радасным шчэбетам, аднак відаць было, што на дне душы яе таміўся глыбокі смутак:

— Прыехаў сягоньня зь места паніч нейкі Антон, за якога хочаць мяне аддаць замуж, а аб табе, Міхась, і слухаць ня хочуць. Кажуць, — мала таго, што ён вучоны, аднак паходзіць з мужыкоў, а я паненка. —

Вестка гэтая моцна падзеіла на Міхася і ён з болем сэрца прамовіў:

— Гэта страшна падумаць, Мар'янна, няўжо мне прыдзецца з табою разстацца, няўбачыць больш тваіх чорных вочак, ня чуць твайго салаўінага голасу, — не! гэта ня можаць быць! Божа! На што я радзіўся мужыком, або ты паненкай, здаецца ніякай розьніцы між намі няма, абое мы людзі — а жыцьцё, праклятае жыцьцё прымушаець падпарадкавацца пад свае несправядлівыя законы, якія нішчаць найпрыгажэйшыя пачуцьці дзьвюх істот, пылаючых гарачым агнём узаемнага каханьня. —

— Мне таксама няхочацца пакідаць цябе, Міхась, і ехаць нейдзе ў горад. Я яго ненавіджу... — прамовіла Мар'янна і з вачэй яе пасыпаліся буйныя сьлёзы.

Міхась пакіраваў човен да берагу і яны хутка апынуліся ўзноў на тым месцы, адкуль выехалі. Ен сільнымі рукамі схапіў яе гібкаю постаць і вынес на бераг ракі. Ужо было досыць позна і на ўсходзе зарумянілася раньняя зара, якая што раз шырэй абхоплівала нябасхіл. З усходу падуў сьцюдзёны вецер.

— Ну што, бывай здарова — сказаў Міхась — пабачымся яшчэ заўтра. — Аднак ня мог адарвацца ад каханай істоты, абняў яе і прыціснуў моцна да сябе, яна зьвесіла сваю галоўку на ягоныя грудзі і яны так стаялі бы заснуўшыя сярод начнае цішыні...

* * *

Узноў над зямлёю павісла цёмная ночка і ўсю зямлю пакрыла густою цемраю. Усюды было ціха й спакойна, усё жывое навакол спала моцным сном, — толькі не спалі яшчэ ў панскім палацы. Там раздаваліся вясёлыя песьні, грымела музыка, лілося салодкае віно—адбывалася вясельле Мар'янны.

Поўны двор наз'яжджалася гасьцей; усе былі вясёлыя, радасныя, у кожнага адчуваўся вясельны настрой,—не падзяляла толькі агульнай вясёласьці Мар'янна. Яна сядзела ў другім пакоі з вернымі сяброўкамі і горка плакала.

Ёй тут было душна ў нялюбай атмосфэры, сэрца яе было там... дзе Міхась. Яна міма свайго панскага паходжаньня душою была зьвязана з родным Нёмнам, з яго зарослымі лесам узгоркамі. Тут было весела й прывольна. Тут з малых гадоў бегала над рэчкаю і зрывала краскі разам з Міхасём, якога цяпер так моцна пакахала.

Яна папрасіла дружкаў пакінуць яе, а сама вышла на двор, гдзе было так добра й лёгка. Стаяла мёртвая цішыня. Панурыя дрэвы моўчкі стаялі не махаючы грознымі вяршынамі як бы ўслухаўшыся ў таёмнаю музыку ночы. У траве навакол блішчэлі майскія сьветлячкі, сярод якіх павольна ступала Мар'янна. Уся была прыбраная павясельнаму. Доўгая белая сукенка, на плечы зьвісалі доўгія расплеценыя косы і яна з вянком на галаве выглядала бы тая русалка сярод ночы. Не хапала ей толькі русалчынай беззаботнай вясёласьці й сьмеху. Яна была сумная, сумная, як тыя дробныя хмурынкі, што ціха паўзьлі па блакітнаму небу і незаметна прападалі ў блеску месяца. Падыйшоўшы да таго паваленага бураю дуба, гдзе так часта з Міхасём супольна праводзілі салодкія вячэрнія хвіліны, у яе сэрца забілася жывей. Яна не магла ўсьведаміць сабе, што з сягоньняшняга дня яго ўжо ніколі не пабачыць, не пачуець яго ласкавых слоў, якія былі так свойскія, так блізкія яе дзявочаму сэрцу. Яна зьлёгка прысела й моцна задумалася,..

А з двара даносілася вясёлая музыка і дзікіе крыкі п'яных гасьцей.

Раптам яна ўскочыла. Да яе падкрадаўся нейкі няведамы мужчына і яна перапужаная кінулася ўцякаць.

Ціха! Гэта я—Міхась! —

Яна на гэты знаёмы голас мімаволна затрымалася. Каля яе стаяў, Міхась. Вочы яго гарэлі дзікім агнём і ён сільнымі рукамі сьціснуў яе ў пол і пасадзіў, на старую вываратню.

— Ну, што, Мар'янна, — прамовіў Міхась.

— Ма быць сягоньня апошні раз цябе бачу, а там... там будуць у душы снавацца толькі туманныя ўспаміны аб прашоўшых салодкіх хвілінах. Так, ты будзеш вялікая пані, будзеш жыць у горадзе ў роскашы й дастатку. Ну што-ж, дай Бог шчасьця! Валяй!—закончыў іранічна Міхась.

— Не, не кажы гэтак!...—прамовіла слабым голасам Мар'янна і з вачэй яе пасыпаліся сьлёзы. Яна плакала...

— Не, Мар'янна! Ніхто цябе ня вырвець з маіх рук, ты мая... і з гэтымі славамі схапіў яе, пасадіў у човен і паплыў на другі бок рэчкі.

— Ой пусьці! Што людзі скажуць! — крычала прышоўшы да прытомнасьці Мар'янна, — куды мяне павязеш?.

— Ня ведаю!... павязу туды, гдзе нас ніхто ня знойдзе, гдзе ў шчасьці й весёласьці будзем дзяліць супольныя хвіліны, а ім цябе не аддам, ні за што не аддам! — і прыціснуў яе моцна да сябе, а другой рукой шпарка гнаў човен, які калыхаючыся на ўсе бакі, пераразаў упоперак раку.

У двары тымчасам агледзіліся, што зьнікла Мар'янна і пусьціліся яе шукаць. За пару хвілін адбівала ад берагу пару лодак, з якіх даносіўся крык: трымай! лаві! не ўцячэш!...

Міхась гэтага ня чуў, а поўны дзікага гневу й ненавісьці шпарка гнаў човен. Яна ўся калацілася ад страху і моўчкі як няпрытомная сядзела зьвесіўшы галоў на яго плячо. Тымчасам вясельнікі з дзікім крыкам даганялі Міхася не шкадуючы яму п'яных пагрозаў.

На самай сярэдзіне ракі разгарэлася заўзятая барацьба. Міхась акружаны з усіх бакоў не паддаваўся, а трымаючы аднэй рукой Мар'янну, другой вымахіваў вяслом навакол не пазваляючы нікому бліжэй даступіцца. Тымчасам малады, ускочыў у ягонаю лодку, якая моцна закалыхалася і нырнула разам з ім у глыб вады. Справілі немы крык. Выхвацілі Мар'янну й маладога, а Міхася адапхнулі вёсламі, які хацеў ускочыць у лодку.

Калі вясельнікі з дзікім трыумфам падплывалі да берагу, на сярэдзіне рэчкі яшчэ было відаць, як калыхалася вада, гдзе змагаўся з сьмерцьцю Міхась.

* * *

Прайшло многа гадоў, многа вады ўплыло ў мора, аднак навакольны народ не забыўся аб гэтым здарэньні і дзед гусьляр убраўшы яго ў казку-байку сьпяваў людзям пад голас гусьляў аб Міхасю-мужыку і паненцы-Мар'янне. Міхась сьмерць знайшоў у хвалях бурлівага Нёмна, а Мар'янна? — няведама, што з ёй сталася. Адны казалі, што ў манастыр пайшла, іншыя, — што пакончылася самагубствам, каб ня жыць з нялюбым, — а іншыя цьвердзілі, што кожнай ночы, як толькі на небе запылаюць ясныя зоркі выходзіць на бераг рэчкі ў вясельным адзеньні з вянком на галаве і чакаець Міхася. Доўга чакаець, аж пакуль не настанець поўнач і ня зьнікнець з подмухам ветру постаць — мара Мар'янны.

ВІЛЬНЯ 19-III-28 г.

—*O*—

# Непагода.

Па небе чаргой безпакойна
Віхрыстыя цягнуцца хмары;
Ў праменьнях электрыкі ясна
Зьяюць, блішчаць тратуары.
На клявішах дахаў дождж грае,
На вокнах бубніць пераборам
І дзынкаюць каплі па лужах
Тужліва, як быццам з дакорам.
А вецер ўтарыць безустанку
У гуках такіх безпакойных,
То ў калеіне плача жалосна,
То грае на дрэвах ён стройных
У бубен гулкіх стаўняў ён букне
І змоўкне на хвілю бурлівы,
То з шумам імкнецца бунтарны
На волю, ў прасторы на нівы.
І каплі іграюць ўжо самі
На струнах стаўбоў тэлефонных
Булькочаць і ціха сплываюць
У канавах плывуць яны поўных.
Глядзяць аднавокам сьлязьлівым
Вітрыны упорчыва—стала,
Прахожыя хутка мільгаюць
На вуліцы руху так мала.

А. Бартуль.

# З песьняў моладасьці.

(М. Васільку).

На крыльлях арліных,
Ў парывах бурлівых
Ірвіся, мой браце, да зор.

І, духам свабодны,
Пакліч Народ родны
Выходзіць на вольны прастор.

І рвіся да волі
І жалю ніколі
Ў гады маладыя ня знай

Пакуль кроў іграе,
У жылах палае —
Да шчасьця забраны кліч Край.

Працуй для Народу
І праўду і згоду
Старайся знайсьці, браце мой.

Адважны, вясёлы
Сей радасьць наўкола,
Хоць—можа цярністы шлях твой.

На вуснах з усьмешкай,
Жыцьцёваю сьцежкай
Сягай поўны веры ўпярод.

На ўсходзе сьвітае,
Ўжо дзень наступае...
Да сонца, мой браце, ў паход!

А. Бартуль.

## Вясна

Здаецца, што вясну раз першы спатыкаю
З такою страшнаю душэўнаю тугой.
Мне жудасна і сумна так! Пытаю.
Ня знаючы: „Што робіцца са мной“?
І ўсё маўчыць. Прырода! Вечар мая!
Ні хто адказу даць ня хоча для мяне,
Хоць вецер вечарком лісточкамі іграе
І блікі месяца гуляюць па сьцяне.
Іх мова мне зусім не зразумела,
А зразумелаю сто раз бы быць магла
Калі-б ты да мяне на момант прыляцела,
Калі-б цяпер са мной ты, мілая, была.

У. Шыран.

## Ідзі

Ідзі па дарозе і цернямі ўсланай
Ідзі! Гэй, мой браце, ўпярод!
Ідзі па калючай,—к той далі нязнанай,
Ідзі! Бо па ёй йдзе Народ!
Ідзі! Крок за крокамі з тугою і болям,
Па гэтай дарозі ступай!
Ідзі! Там далёка прысьвечваець доля!,
Дык, браця,—па долю сягай!
Няхай навакола плывуць чорны хмары,
З краю ў край няхай бьюць пяруны,
Хай буры бушуюць! — Хай людзі нядары

Сьмяюцца з цябе!—Груганы...
Груганы хай над змучаным целам лятаюць,
Чакаючы жыру-пажытку сабе!...
Ты, браця, ідзі! Бо нас людзі чакаюць,
Бо Народ наш наперад ідзе!

М. Тулейка.

Вільня, люты.
1928 г.

## Мы там...

Мы там, дзе болей волі, духа,
Мы там, дзе поўна сьветлых зор,
Мы там, дзе ёсьць ідэя руху,
Мы там, дзе сьветлы кругазор.
Усе мы там душою й сэрцам,
Мы думкамі усімі там,
Бо счасьце там да нас сьмяецца,
І доля там сьмяецца нам.
Мы там усе, дзе асалоду
Пьець прагавітая душа,
Мы там, дзе сэрца для Народу
Так моцна б'ецца Крывіча.
Мы там, дзе нашы лятуценьні,
Дзе мары нашы — дзе наш люд,
Мы там, дзе ў горы і цярпеньні,
Здзейсьняецца паволі Цуд...
Мы там! Для нас німа устрыманьня,
Для нас німа аковаў-пут,
Мы там дзе вера, дзе змаганьне,
Дзе жыцьцё наша—дзе наш Люд.

М. Тулейка.

Сакавік, 1928.
Вільня.

## Дайце!

Дайце сілы — дайце волі!
Дайце мне прастору,
Палячу я к лепшай долі,
Палячу да зораў!
Палячу я у бязмежжа,
Палячу да сонца,
Дакуль дух мой сягнуць можа,
Палячу бяз конца!

Вокам шыбкага сакола,
Стуль на зямлю гляну,
Агарну ім усю вечнасьць;
З пачатку да сяньня!
Агарну ім усю цемнасьць,
Агарну разьвею!
Зразумею ўсю таемнасьць,
Жыцьця—чарадзея!
Вякоў стогны адгадаю,
Вякоў сьлёзы ўгледжу...
Прынясу стуль нова счасьце,
Прынясу з бязмежжаў.
Шыбану адно яшчэ раз,
Адтуль счасьце. згоду,
Прынясу з сабой зараз,
Для свайго Народу!
Дайце мне адно сілы-волі,
Дайце мне прастору,
Палячу за лепшай доляй,
Палячу да зораў!

М. Тулейка

Люты, 1928.
Вільня.

# Сьмялей!

Сьмялей на вышыню народаў палажэньня
Праз сьмерці труп к жыцьцю — краіна маладая!
Даволі горких сьлёз, даволі паніжэньня!
Сьмялей к жыцьцю!

Хоць ўецца над табой яшчэ сіл цёмных зграя...
Хаўтурны марш грыміць, над прошласьцяй кашмарнай.
Змывай сьляды пакут—свабоды, славы сьцяг
Ўздымі да сонца ты, рукой сваей ўладарнай!

То не дубы лісьцём, магутна шалясьцяць —
Аб волі пяючы бунтарны гымн вясьне,
То змагары ідуць, ў ахвяру каб аддаць
Сваё жыцьцё, свой лёс, радзімай старане.

Вітаю, брацьця вас, бязмежным, я — прасторам
Сяўцы красы, сьвятла — душой вітаю вас
Ўваскрэсла Беларусь!—Сьмялей-жа к ясным зорам!
Пакуль ў грудзёх агонь змаганьня не пагас...

М. Васілёк.

Вільня, 1928 г.

# Бывай.

Дзе вочы чорныя, дзе шчасьце,—
Па чым душа мая баліць?
Прайшло ўсе... балей не вярнецца,
Сьвятых хвілін не ўваскрасіць.

Дарэмна ішча пагляд мой сумны,
Красы жыцьця мінулых дзён,
Дарэмна ў думках, лятуценьвях,
Абраз малюе, мілы, ён...

Вясна прайшла... краса завяла,
Апалі лісьця з пышных дрэў,
Той дзень маёвы, дзіўнай песьні
Адцьвіў—навекі дагарэў...

Бывайце вочкі чараўніцы,
Бывай каханьня забыцьцё!
Ў душы з шчаслівым успамінам
Іду далей я праз жыцьцё.

М. Васілёк.

# Песьні Вяльлі.

Калісь я над шэрай, каханай Вяльлёю,
Празрыстай і цёмнай, як казкі,
Стаяў у адзіноце гадзінай начною;
Цьвілі навакол мяне краскі.
Ноч летняя была салодка і міла,
Цяплом і прасторам дышала,
І зорак ў нябёсах сьвятло зіхаціла,
Над цёмнай ракою блішчала.
І бор ў адзіноце тяёмны, імглісты,
Здаеца, маніў чарнатою,
Казаў, што абшар там свабодны і чысты,
Ісьці бы, здаецца, тудою!
Ісьці без канца, без дарогі, без мэты,
Як быццам жыцьцё—гэты бор,
І думкай бадаўчай мастака—паэты
Ўглыбляеш тудою свой зор!
І месяца срэбныя косы—праменьні,
Як срыбрам усё залілі,
Як быццам чароўныя сны—лятуценьні
Зьмянілі аблічча зямлі.

І месяц блішчаў у вод ясным крышталі
Шляхом быццам срэбным ў вадзе...
А сэрца змадзела з адвечнага жалю,
Хісталась ў адвечнай нудзе.
Мінулая радасьць, мінулыя сумы
Зьліліся у смутак адзін,
Надзеі, сумліваў агністыя думы,
І лепшых чаканьне гадзін.
І вобраз прыгожы дзяўчыны каханай
Стаяў як жывы прада мной,
Ў імглістае ночы моў зоркай сьвятлянай,
Як казка, як сон над ракой.
І там, ад ракі, быццам чутна здалёка
Вялікі, няскончаны сьпеў,
Ледзь чутна для вуха, ня ўбача ўжо вока,
Як там быццам вогнік гарэў.
І там ужо ня знаю, на яве ці тое
Было, ці ў зморы, у сьне,
Але штось цудоўнае, штось незямное
Ў тым сьпеве здавалася мне.
Здавалась, што ты з тваім зорам імглістым
І з думнай няшчаснай душой
Схілілась ласкава, з абліччам так чыстым,
Як неба блакіт нада мной.
Адразу забыўся я крыўды старое,
І так мне прыемна было,
Я чуў цябе, тхненьне тваё дарагое,
З валосьсяў лілося сьвятло.
І быцца тады мне ты сумна казала,
Што я табе вечна малюсь,
Што душа мая цябе вечна кахала,
Што ты... ты — Сама Беларусь!
Што сум твае душы ад крыўды варожай,
Якую нам трэба памсьціць,
І дума тва́ ад тэй іскаркі Божай,
Якая ў народзе гарыць.
Што ты, Беларусь, ў заняпадзе ў дому,
І зьдзеку — асталась чыста,
Нікому душой ня аддалась, нікому,
І тым твая дума сьвята.
Што тая тайніца крыніцы народнай
Ніколі варожай ня будзе,
Што дух твой вялікі адвечна — свабодны
Ў няволі твае толькі людзі.
Так ходзіш адвеку, прыгожая, ў суме,
І будзіш спагаду ў людзях,
І той, што табе спагадаў ў тваей думе,
Ён чуець надзею ў грудзях.

Ён пойдзе адважна за волю Народу,
Як Ты толькі скінеш рукой,
Тады Табе знойдзе любоў і свабоду,
І ясны, блакітны спакой!..
І ў шэпце каханьня ня ведаў, малюся
Каму, ці дзяўчыне сваей,
Ці мо несьмяротнай усей Беларусі,
Айчыне гэрояў-людзей?
Але мае радасна плакалі вочы,
І быў я шчасьлівы душой,
Адзіны ў яснай, у месячнай ночы,
Над шэрай, срыбрыстай Вяльлёй...
Такія аб раі цудоўныя казкі
Я чуў ў ночным сьпеве Вяльлі,
У доле, ў расе рассыпаліся краскі,
І цёмныя хвалі плылі.

*Г. Вялецкі.*

# З Народнай творчасьці.

Ой там, на гары, каманда стаяла,
Маладая Гануленька ўсю ночку ня спала.
Як ня спала, так ня спала, захацела спаці,
Ой вялеў-жа пан палкоўнік музыкі наняці!
Яшчэ-ж бо я маладая, валоў не ганяла,
Яшчэ-ж, бо я маладая і сукняў ня ткала.
Ой вялеў-жа пан палкоўнік слугам найвярнейшым
Каб прынясьлі Гануленцы сукню найпякнейшу.
Ой прынесьлі Гануленцы сукню найпякнейшу,
Ды сказалі Гануленцы сьціха ды памалу: —
„Уцякай ты Гануленька — табе бяда будзе!"
Уцякала Гануленька гарамі, даламі,
А за ёю пан палкоўнік з вернымі слугамі.
Хацелася палкоўнічку яе настрашыці —
Давялося палкоўнічку на сьмерць яе ўбіці!
Пыталіся палкоўнічка, дзе ёй дол капаці?
Ой вялеў-жа пан палкоўнік трохі абаждаць —
Няхай прыедзе ацец-маці Ганулю хаваць.
Палажылі Гануленьку ды ў парог нагамі,
Ды зрабілі Гануленцы труну з галунамі,
Палажылі Гануленьку на зялёным ложку,
Выквяцілі Гануленцы крывую дарожку!
Ой, прышоў-жа татка ў хату,
Ды тупнуў нагою: —
Гэта табе, маё дзіця, пакласьць галавою!

Ой, ўвайшла маці ў хату,
Ўспляснула рукамі: —
Гэта табе, маё дзіця, гуляць з жаўнерамі!
(дваракамі)

* * *

Ой у лузі каліна, ой у лузі чырвона,
На каліні зязюля!
На каліні зязюля, яна куе, начуе,
Ніхто яе ня чуе.
Ой пачула нявеста, ой пачула маладая,
Рана па ваду йдучы.
Добра табе зязюля, добра табе сівая,
На каліне куючы!
Добра табе нявеста, добра табе маладая,
Сьвякрыве ды годзячы!
Дала сьвякроў пшаніцы, намалоці мучыцы,
Намалоці мучыцы.
Я пшаніцу малола, па зернетку кідала,
Па зернетку кідала.
Ой пшаніца сырая, ды малоці цяжкая,
Мая сьвякроў ліхая!
Сьвякрыві галаў памыла, сьвякроў кажа — ня міла,
Сьвякроў кажа — ня міла.
Пашла сьвякроў да броду, я за ею па воду,
Я за ею па воду.
Сьвякроў галаў нагнула, а я яе папхнула,
А я яе папхнула! —
Плыві сьвякроў з вадою, трудна жыці з табою,
Трудна жыці з табою!

Запісаў А. Мацейчык, в. Рудауляны, Горадз.

* * *

Ой, позна, позна я з вечару сяджу,
Ой, тонка, звонка белы кужаль праду;
Ой, праду, праду, у ваконца гляджу;
А пад ваконцам быстра рэчка цячэць,
А па тэй рэчцы шэра вутка плывець;
Ой, там ня вутка, родная матулька,
О, кіну, кіну я пралку пад лаўку,
А сама пайду з мамачкай вітацца.
„Мая мамачка! Нічым не ўгадзіла!
Ані ахвоткай, ані сваей работкай,
Ані я ежай, ні белай адзежай;
Як ня іду есьці — кажуць гняўлівая;
А як пайду есьці — кажуць жарлівая;
Як ня мыюся — кажуць лянівая;

А як памыюся — кажуць хвастлівая;
Як пайду скора — кажуць каза дзіка,.
Як пайду ціха — кажуць сьвіня біта“

Народная песьня; запісана ў Вялейскім пав.
гм. Вішняўскай в. Сьпягліцы, ад М. Рукойцік.

**В. Тумаш.**

* * *

Сады мае, сады, сады зялёныя!
У першым садочку салавей шчабечыць,
А ў другім садочку сын з маткай гаворыць:
„Ой, сынку, мой сынку, хто табе найвярнейшы,
Ці жонка, ці цешча, ці родная мама?“
„Міла мне і цешча, для майго заезда,
Міла мне і жонка, для маей размовы,
Матка наймілейша, сэрцу найвярнейша.
Як мяне насіла, усё Бога прасіла;
Сорак цёмных ночак надамной ня спала,
Сорак ясных сьвечак надамной спаліла,
Да пакуль сыночка, мяне, ўзрасьціла“.

# „Труды Белорусскаго Государственнаго Университета“.

(*Минск. 1922 г. Госуд. Издат. Белоруссии; стр. 218*).

Кожны, хто прачытае гэтыя вучоныя, унівэрсытэцкія запіскі, прываблены й заінтрыгаваны іх галосным назовам, — будзе глыбока разачараваны: нідзе, ні ў адным артыкуле ён ня знойдзе тэмы, якая хоць чым-небудзь зачапіла-б Беларусь; увесь багаты лінгвістычны матар'ял аб Беларусі непачаты і з матар'ялу этнаграфічнага, аб якім можна пісаць дзесяткі тамоў, і заўсёды на жывую тэму, яшчэ амаль што нікім не зачэпляную, — усё гэта быццам для аўтараў ня істнуе. За тое мы сустракаем такія артыкулы, як „Феодализм в древнем Израиле“, „Стихотворения Гейне в переводе Тютчева“, або з гісторыі „западно-русского края“ — артыкул: „Униатския школы для западно-русского юношества, брестской церковной унии (1596)“.

Уся часапісь проста дзівіць сваім навуковым зьместам. Здаецца, далей у гэтых самых „Трудах“ напісана мэта арганізацыі Унівэрсытэту, якую накрэсьлілі прадстаўнікі розных навуковых дысцыплін, гэта: „дапамога ўсебаковаму студ'яваньню прыродна-гістарычных, этнаграфічных, агранамічных і культурна-бытавых асаблівасьцяў краю“.

Здаецца самі гэта напісалі. І раптам, чытаем:

„Феодализм в древнем Израиле".

Ну, пры чым тут: „этнаграфічныя асаблівасьці краю" і „дрэўні Ізраіль". Зусім не зразумела. Але-ж зусім абыйсьці пытаньне аб Беларусі усё-ж такі аўтары не маглі. Яны далі кароценькую зацемку „ад рэдакцыі", дзе хоць у двух словах мусілі сказаць нешта аб беларускай культуры.

Праўда і тут зацемка напісана так, каб з яе ня можна было зразумець, чаго хочуць аўтары, — як яны разумеюць беларускую культуру.

Яны пішуць:

> „... внутреннее развитие белорусской культуры отнюдь не должно выражаться однако в ее обособлении от общечеловеческих источников культуры".

Цікава, што яны разумеюць пад гэтымі „крыніцамі" культуры? Мову народу, яго этнографію, веру, звычаі, фольклёр, псыхалёгію, народу? Тады гэтыя „крыніцы культуры" ня могуць быць агульналюдзкімі, — кожны народ мае свае асаблівыя крыніцы, і,— адсюль,— будзе мець і свой асаблівы, нацыянальна-культурны характар. Такая культура ў сілу свайго разьвіцьця, ў сілу сваей самабытнасьці, — абасобіцца.

Ці можа пад гэтымі агульналюдзкімі крыніцамі культуры яны разумеюць агульнавядомыя досьледы, законы, тэорыі, гыпотэзы? Тады зусім зразумела, што беларуская культура ня можа разьвівацца без усьведамленьня і ператворываньня ў сваім беларускім „Я" гэтых агульна-чалавечых багацьцяў; гэта і без таго зразумела, тады на што пісаць аб гэтым?

На што-ж у далейшых радках падкрэсьліваць усебаковасьць кожной нацыянальнай культуры і таму немагчымасьць яе „абасабіцца" ад уцямленьня (усвоения) „агульна-чалавечай навукі, тэхнікі і арганізуючых прынцыпаў грамадзянства".

З гэтым ня прыходзіцца спрачацца: гэта кожнаму гімназісту ясна. Здаецца, хто-б даказываў, што руская хэмія павінна ўцяміць („усвоить") агульна-чалавечыя законы Лявуазье і разьвіцьцё хэміі не павінна „абасабіцца" ад агульна-людзкай хэміі.

Хэмія заўсёды застанецца хэміяй, але яна будзе насіць сваю назву рускай, нямецкай, францускай, у залежнасьці ад таго, якія людзі будуць працаваць над яе законамі. Бо кожны-жа вучоны ня толькі прадукт сацыяльна-эканамічных адносін, ён яшчэ насіцель пэўнай нацыянальнай псыхалёгіі, пэўнага працэсу думаньня, і кожны вучоны будзе глядзець на адныя й тыя-ж законы, — а бачыць у іх нешта іншае, або рабіць з іх зусім іншыя вывады. Здаецца,—сьмешна было-б даказываць Мендзелееву, што ён не павінен быў „абасабіцца" ад законаў Лявуазье, бо ён *пера*т*варываў* у сваім „я" гэтыя законы, а ягонае „я" вытварыла цэлае пакаленьне рускіх хэмікаў, імён якіх не зафіксавала гісторыя гэтай навукі, але якія сваімі — няпрыкметнымі, можа, у агульна-людзкім масштабе, — працамі разьвівалі сваю ўласную, не нямецкую, не францускую, — а рускую хэмію.

Навука — ёсьць інтэрнацыянальнае зьявішча, але свае творы заместа таго, як было ў сярэднія вякі, — калі кожны вучоны, пісаў на інтэрнацыянальнай мове — лацінскай, у наш век кожны вучоны піша на мове таго народу, да якога ён належыць, карацей кажучы,— кожная навука цяпер творыцца ў нацыянальных лябораторыях. Здаецца, гэтая ісьціна вядома кожнаму і паважаная рэдакцыя „Трудов" павінна ведаць, што сярэднявечча ўжо прайшло, і ўжо даўно народы замыкаюцца ў саміх сябе, каб праз гэтае замыканьне ня толькі не „абасабіцца", а наадварот, — далучыцца да агульнага жыцьця, — вытварыць інтэрнацыянальныя законы. Праз „нацыянальнае" да „інтэрнацыянальнага" вось прынцып усякай культуры.

Такі шлях застанецца і для „ўнутраняга развіцьця" беларускай культуры.

Што датыча самых „источников", крыніц культуры, калі пад гэтымі крыніцамі разумець агульна-людзкія дасягненьні ў навуцы, — то рэдактары „Трудов" дарэмна напіраюць на немагчымасьць „обособления".

Можам іх запеўніць, што беларусы не такія дзікія; яны ўмеюць паважапь чыстую навуку і яе працаўнікоў.

Толькі яны хочуць, каб беларускія вучоныя, або вучоныя беларусы, думалі, тварылі пабеларуску і каб разьвіцьцю беларускай культуры не ставілася перашкоды.

Толькі і ўсяго.

Але яны таксама хочуць, каб у „Трудах" ня было зьмешчана толькі два—тры словы мімаходам аб беларускай культуры, каб задавольніць дух часу і адчапіцца ад надаедлівых пытаньняў, а каб было высьветлена ў вялікім і зразумелым артыкуле, як менскія вучоныя разумеюць беларускую культуру і яе адносіны да іншых культур.

Цяпер — перакінуўшы гэтую зацемку „ад рэдакцыі" і ўсе навуковыя артыкулы аўтараў (у іх няма нічога беларускага,) пяройдзем проста да „унівэрсытецкай летапісі". Хацелася-б хоць тут, калі першы артыкул рэдакцыі так разачараваў, хоць тут пабачыць, што жыцьцё ўнівэрсытету б'е беларускай крыніцай, што калі рэдактары „Трудов" пужаюцца духа беларускай культуры, дык прынамсі тут падр.хтовываюцца маладыя, культурныя працаўнікі, — беларускія студэнты.

Хацелася-б, прынамсі, на будучыню глядзець спакойна. Але паглядзём факты; паглядзём статыстыку Ун-ту — ці ня зьнішчыць яна нашыя хаценьні й нашыя надзеі.

Усіх студэнтаў Бел. Дзярж. Ун-ту, — 1750 чал., але чамусьці з іх, падаўшых анкеты, толькі 1366 чал., з гэтых падаўшых прыходзіцца:

| | | |
|---|---|---|
| сялян | 409 | (30.6 проц.) |
| работнікаў | 152 | (11 „ ) |
| радавых служачых | 524 | (39 „ ) |
| нявысьветл. сацыяльнага становішча | 581 | (20.4 „ ) |

Па нацыянальнасьці:

| | | |
|---|---|---|
| Беларусаў | 396 | (29 проц.) |
| **Жыдоў** | **904** | **(66.1 „ )** |
| Вялікарусаў | 43 | ( 3.2 „ ) |

| | | | |
|---|---|---|---|
| Палякаў | . . . . . | 8 | ( 0.6 „ ) |
| Іншых | . . . . . . . | 15 | ( 1 „ ) |

Цыфры гутарацъ самі за сябе.

Разгледзім яшчэ праграмы паасобных факультэтаў.

Істнуюць факультэты грамадзкіх навук з аддзеламі: этнолёга-лінгвістычным, грамадзка-пэдагогічным, праўнічым, эканамічным, мэдыцынскім і работніцкі факультэт — рабфак.

Здавалася-б, на ўсіх гэтых факультэтах, — прынамсі на факультэце грамадзкіх навук — уведзяны абавязковы курс беларускай мовы. Але што мы бачым? Факультэт грамадзіх навук мае 4 сэкцыі: рускай мовы, беларускай, польскай і жыдоўскай, і ні ў аднэй з гэтых сэкцыяў (апрача, зразумела, беларускай) няма абявязкавай беларускай мовы; яна істнуе ў кожнай сэкцыі па дабравольнаму выбару, яе вывучаюць тыя, якія йдуць у бел. сэкцыю г. ё. Беларусы, якія яе й так ведаюць; за тое руская мова ўведзена ўва ўсе сэкцыі, (апрача жыдоўскай), як абавязкавая; ў сэмінарыях бел. сэкцыі бачыш і гісторыю рускай літэратуры, тады як гісторыя беларускай літэратуры ўведзена толькі ў беларускую і ні ў якую чужую.

Праўда, трэба зазначыць, што гісторія бел. літэратуры, уведзена ў т. зв. аснаўны курс іншых сэкцыяў, але на мове гэтай сэкцыі, так што зусім зразумела, што з гэтага выходзе (і Палякі калісьці прапанавалі Б. Тарашкевічу выкладаць у віленскім унівэрсытэце беларускую літэратуру, але... на польскай мове, і ён, зразумела, ад гэтага адмовіўся).

Такім чынам ад усей гэтай крыклівай беларусізацыі й Дзяржаўнага Ун-ту, застаецца толькі нешта вельмі маленькае, вельмі сумнае.

(Працяг будзе).

**Кнігар.**

# Балючая справа.

Сумны выгляд маюць сучасныя гоні беларускае культуры: варожыя адносіны паміж паасобнымі партыямі павялічываюцца штодзень, і многія з сяброў розных палітычных кірункаў, здаецца, усялякімі спосабамі маняцца дасягнуць свае мэты: зьніштожыць сваіх палітычных праціўнікаў, забываючы пры гэтым, што і яны-нішто іншае, як браты іхныя, сыны таго самага працоўнага, сялянскага, абяздоленага Беларускага Народу. І ворагі нашае Бацькаўшчыны карыстаюць з гэтага, каб аслабіць малады беларускі рух. А мы, здаецца, так мала робім дзеля аб'яднаньня Беларускіх сілаў і тварэньня адзінага супольнага беларускага нацыянальнага фронту.

Дзеля гэтае варожасьці розных беларускіх кірункаў на жаль вельмі мала зварачываецца ўвагі на культурныя патрэбы Беларускага грамадзянства, на тыя арганізацыі, якія былі-бы пазбаўленымі ўсялякае палітычнае ахварбоўкі. А я веру, што гэта ўсё ў нас яшчэ маг-

чыма, што ўсе варожыя да сябя палітычныя кірункі знойдуць супольную мову, калі ходзіць аб дабро ўсяе Айчыны.

Аднэй з такіх нацыянальна-культурных пляцовак, нястача каторае вельмі сумна адклікаецца ў сучасны мамэнт, і стварэньне якое мусіць быць на чарзе дня, я ўважаю Беларускае Сакольства ў краі.

Калі пабачым на гісторыю адраджэньня Чэхіі, можам добра заўважыць, якое вялізарнае значаньне мела чэскае сакольства для вызваленьня краю. Бо сакольства па-першае, ствярае дзельных, адважных патрыётаў, і такім спосабам прычыняецца да ўзмацаваньня духа народнага. Па-другое, сакольства пашырае фізычную культуру, а на яе вельмі мала ўважаецца ў сучасны мамэнт. Mens sana in corpore sano. Калі па вёсках будуць істнаваць гурткі Беларускага Сокалу, народ наш пачнець узмацоўвацца і духам, і целам, аж з хворага і бяздольнага заменіцца на здаровага, моцнага і адважнага. Апроч таго, Сакольства магло бы аб'яднаць усе варожыя да сябе кірункі на грунце нацыянальнае, апалітычнае справы. Дзеля гэтага ўсяго стварэньне Сакольства я ўважаю ня тое, што пажаданым, але й няўхільна патрэбным.

*Г. Вялецкі.*

# Хроніка.

**Рэфэраты ў Б. С. С.** 12 лютага 28 г. адбыўся рэфэрат гр. М. Косьцевіча на тэму: „Рух беларускі пасьля разгону Усебеларускага Зьезду". 19 лютага 28 г. адбыўся рэфэрат кал. Ст. Станкевіча на тэму: „Ідэолёгія беларускае літэратуры першай палавіны XIX ст.".

**Аўтарскі вечар сяброў Б. С. С.** 28 лютага 1928 г. у Б. С. Саюзе быў наладжаны аўтарскі вечар сяброў Б. С. С. Чыталі свае творы: вядомы малады паэт Аўгень Бартуль, Міхась Тулейка, Ус. Шыран і М. Васілёк. Уражаньне з вечару было вялікае і гэтае зьявішча астаецца прывітаць з пажаданьнем, каб часьцей адбываліся такія аўтарскія вечары нашых маладых паэтаў. Шкада толькі, што ў гэты дзень падзеля сваей адсутнасьці ў Вільні не маглі якраз выступіць усе маладыя нашыя песьняры з студэнскай моладзі, як Г. Вялецкі і інш.

**Агульны сход сяброў Б. С. С.** Дня 13 сакавіка г. г. адбыўся надзвычайны агульны сход сяброў Б. С. С., гдзе ў зьвязку з адмовою кал. Т. Куніцкага ад становішча Старшыні Саюзу агульны сход ня выбіраў новага старшыні, а даў панамоцніцтва старому Ураду, паводле якога абавязкі старшыні да канца году будзе спаўняць віцэ-Старшыня І. Гагалінскі і да складу сяброў Ураду ўваходзіць адзін заступнік — к. А. Бартуль.

**Былы сябра Б.С.С. кіраўнікам беларускага аддзелу пры віленскім Радыё.** Гр. Адольф Зянюк, які ў прошлым годзе скончыў віленскі Унівэрсытэт з дыплёмам Магістра Права і адначасна належаў да Б.С.С. сёлета назначаны кіраўнікам беларускага аддзелу пры вілен-

скім радыё, гдзе кожны тыдзень чытае беларускія лекцыі. Трэба зазначыць, што гр. Адольф Зянюк, зьяўляецца зусім адпаведнаю асобаю кіраваць беларускім аддзелам у радыё, дзеля чаго аддзел беларускі вядзецца зусім добра.

**Прыняцьці матурыстаў беларускіх гімназіяў на У. С. Б.** З пачатку другога трымэстру 1927—28 акад. году, пасьля многіх труднасьцяў прынята 7 беларусаў на прырода-матэматычны і гуманістычны факультэт Віленскага Унівэрсытэту ў характары вольных слухачоў. Амаль што ўсе з новапаступіўшых зьяўляюцца сябрамі Б.С.С.

**Арышт кал. Янкі Шутовіча.** Дня 27 лютага г. г. арыштаваны ў Ашмяне сябра Б. С. С. Янка Шутовіч, які там сядзіць і дагэтуль. Трэба зазначыць, што кал. Янка Шутовіч вельмі энэргічна адносіўся да працы ў Б. С. С., ён-жа быў сябрам Рэвізыйнае Камісіі Б. С. С. і адначасна сябрам Рэдакцыйнае Калегіі „Студэнскае Думкі“.

**Дзяжурствы ў Б. С. С.** Дзяжурствы ў Б. С. С. (вул. Св. Ганны 2) адбываюцца што аўторкі й суботы ад 6 да 8 гадз. вечара. Урад дзяжурыць што суботы ад 6 да 7 гадз. у поўным складзе. У гэтым тэрміне адбываюцца заўсёцы паседжаньні Ўраду Б. С. С.

**Бібліатэка Б. С. С.** адчынена што суботы ад 6 да 8 гадз. вечара. Бібліатэкарам зьяўляецца кал. Ўл. Гнароўскі.

**Сьмерць П. Крэчэўскага.** 8 сакавіка г. г. памёр у Празе Чэскай П. Крэчэўскі старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі.

**„Кружок Студэнтаў Украінцаў у Вільні“.** У гэтым годзе украінскія студэнты ў Віленскім Унівэрсытэце заснавалі „Кружок Студэнтаў Украінцаў“, які часова месьціцца ў памешканьні Б. С. С. г. зн. вул. Сьвятой Ганны № 2. Склад Ураду „Кружка Студэнтаў Украінцаў“ наступны: Старшыня — Янка Рудакевіч, заступнік старшыні — Сагайко, сэкрэтар — Вацык, Скарбнік — Ксеня Яновічанка.

**Беларуска-Украінскі студэнскі хор.** Супольнымі сіламі студэнтаў украінцаў і беларусаў зарганізаваўся беларуска-украінскі студэнскі хор, які цяпер развучвае цэлы сьцяг беларускіх і ўкраінскіх народных песьняў і ў хуткім часе будзе магчы рабіць публічныя выступленьні. Рэгентам хору зьяўляецца кал. Юльян Форэмны.

**10-я ўгодкі сьмерці К. Каганца.** 20 сакавіка прыпадаюць 10-я ўгодкі сьмерці паэты К. Каганца нашаніўца-народніка. Артыкул пасьвячаны гэтаму юбілею дамо ў наступным нумары „С. Д.“

**Чародны нумар** 3(10) **„Студэнскае Думкі“** выйдзе ў траўні за травень — чэрвень.

---

*Грамадзяне! хто атрымаў першы пробны нумар „Студ. Думкі“ просім прысылаць падпісныя грошы. Падтрымайце ў трудны матэр'яльна час нашую студэнскую часапісь.*

*За грошы, прысланыя на „Студ. Думку“ прав праф. Ўладычку 10 зл., кс. Шутовіча 25 зл., кс. Рэшаця 4 зл. і інш.* **Рэдакцыя шле шчырае падзяку.**

---

Рэдактар-Выдавец Ігнат Гагалінскі.